Год II. Верасень. № 10 (20)

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі“.
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 10.

1. Янка Купала — А. Сакалінскі, 2. Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці — Ваг, 3. Аб народнай творчасьці — М. Пяцюкевіч, 4. Куток для спорту — Ул. Казлоўшчык, 5. * * * С. Машара, 6. * * * — Каласок, 7. Летняя ноч — Улад-Ініцкі, 8. Дай мне ручку, каханая дзяўчына... — Ул. Казлоўшчык, 9. Успаміны — Ю. Сяргіевіч, 10. Батрачае жыцьцё — Янка Ваўштолскі, 11. Ля ракі — Ул. Бяздольны, 12. Лісты, 13, Хроніка, 14. Усячына.

*Просім прысылаць залеглую плату за «Шлях Моладзі».*



# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

| | | |
|---|---|---|
| Падпіска месячна | . . . . . . | 35 гр. |
| „ на паўгода | . . . . . . | 2 зл. |
| „ на год | . . . . . . . | 4 зл |

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

| | | |
|---|---|---|
| Цэлая старонка | . . . . . . | 40 зл. |
| Паўстаронкі | . . . . . . . . | 20 зл. |
| Адна чацьвертая старонкі | . . | 10 зл. |

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, Верасень 1930 г. | № 10 (20). |
|---|---|---|

## Янка Купала.

*(У 25-ыя ўгодкі ягонага творства).*

(1905—1930)

Год 1905-ты — гэта час, калі паднявольныя клясы і народы царскай Расеі першы раз адважна, нават з аружжам у руках, запратэставалі процiў нявoлі.

Вось-жа ў гэтым часе стаўся чутным так-жа голас і беларускага народу, які загаварыў праз вусны свайго найлепшага сына, у хуткім часе вялікага беларускага паэта Янкі Купалы.

Радзіўся Янка Купала (Ян Луцэвіч) 25.VI.1882 г. у фальв. Вязынка, недалёка ад Радашкавіч. Бацькі яго — беларусы-каталікі, дробныя арандатары.

Пасьля сканчэньня пачаткавай школы, бацька Я. Купалы дзеля сваей незаможнасьці вучыць яго далей ня мог. Аднак малады Купала рваўся да навукі і здабываў яе сам праз сябе. Паглыбляў наш паэт сваё саманавучаньне сьпярша ў Пецярбурзе ад 1909 г. да 1913, дзе, дзякуючы захадам першага пасьля Фр. Багушэвіча беларускага адраджэнца праф. Бр. Эпімах-Шыпілы, хадзіў на агульна-асьветныя курсы Чарняева, а пасьля, у 1916 г., вучыўся ў вольным унівэрсытэце ім. Шаняўскага ў Маскве.

Першы выступ Я. Купалы ў беларускай літэратуры быў 15.V.1905 г., калі ў менскай расейскай газэце: „Сѣверозападной край“ быў надрукаваны яго першы беларускі верш „Мужык“.

Пасьля гэтага творства Купалы расло дужа шыбка ў наступным парадку: „Жалейка“ (1908)—зборнік вершаў ад 1905 год. у якім ужо відаць вызначаны поэтыцкі талент Купалы, але ў якім пясьняр наш яшчэ бадай выключна селянін. Ён на сваей ліры пяе тут песьні беларускага артая, жняі, касца, пастуха і часта плача над іхняй нядоляй. Ня мае яшчэ так-жа Купала веры ў свае поэтыцкія сілы.

У наступным зборніку „Huślar“ (вершы да 1910 г.) індывідуальнасьць Я. Купалы, як паэта, разьвілася значна. Тут ужо зьмест вершаў Купалы ня толькі сялянскі, але значна шырэйшы і глыбейшы. Тут ужо Купала — гэта сьвядомы паэт, пясьняр красы. Аб гэтым нам гавора як зьмест яго вершаў, так і стройна адшліфаваная іх форма.

У часе ад 1910 г. да 1913 вышлі ў сьвет высокай вартасьці зьместам і формай гэткія творы:

„Адвечная песьня“ (выд. 1910) — драматычная паэма ў 12-х праявах, дзе пясьняр малюе ўсё жыцьцё беларуса ад нараджэньня да сьмерці;

„Сон на кургане“ (1913 г.)— драматычная паэма ў 4-х абразох, у якой, праўда, спатыкаем тыя-ж нацыянальныя і соцыяльныя матывы, што і ў творах папярэдніх, але затое ўсё гэта выказана ў большым парадку, глыбей, ямчэй і з вялікім артызмам;

„Паўлінка“ (1913 г.) — драматычная сцэна з шляхоцкага жыцьця ў двух актах;

„Раскіданае гняздо“ — драма ў 5-х актах з сялянскага жыцьця, напісаная ў 1913 г., выданая ў 1919, у якой сымбалічна прадстаўляе пясьняр раскіданую Беларусь.

Урэшце да гэтага самага часу належа зборнік вершаў (1910—1913) „Шляхам жыцьця“, у якім Я. Купала, ужо як волат слова і думкі, у высока мастацкай форме кліча народ да нацыянальнага адраджэньня, яркімі фарбамі малюе абраз сьведамага самастойнага жыцьця народу, выказвае любоў да яго мінуўшчыны, разам з народам плача і весяліцца, гнеўна, поўны абурэньня, выступае проціў ворагаў народу. Словам, у творчасьці за гэты час, асабліва ў зборніку „Шляхам жыцьця“; Купала ўжо, вобак з другім нашым найвялікшым паэтам, Якубам Коласам, — вялікі мастак — ідэолёг беларускага адраджэньня, павадыр і прарок народу.

Час сусьветнай вайны і расейскай рэвалюцыі, калі хваля жыцьцёвая кідала песьняра з аднаго месца ў другое, рэч зразумелая, ня быў спрыяючым творству паэта. Дык і ня дзіва, што за гэты час, калі ня лічыць нямногіх вершаў Купалы ў тагочасных беларускіх часопісях, з пад пяра яго нічога выдатнейшага ня вышла.

Толькі аж 1922 г. у Менску вышаў зборнік вершаў „Спадчына“ (за час ад 1913 г.), які, як ужо відаць з самай назовы, ёсьць спадчынай мінулых гадоў творства Купалы, спадчынай матываў, думак і ідэолёгіі, так ярка і буйна ўжо выяўленай у зборніку „Шляхам жыцьця“.

Урэшце, у 1924 г. у тым-жа Менску, выходзе апошні зборнік вершаў Я. Купалы, так-жа пад характэрным назовам: „Безназоўнае“, у якім, апрача старых матываў народна-адраджэнскіх, спатыкаем так-жа матывы на лад новы, бальшавіцкі. У гэтых новых матывах адчуваецца ўжо думка быццам аб найвышэйшым асягненьні беларускага народу пад уладай камуністых, аб яго быццам поўнай самастойнасьці. Аднак матывы гэтыя затушаваныя беларускімі народнымі матывамі.

„О так! я пролетар!...
Яшчэ учора раб пакутны —
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі!“

Так, запяяў пясьняр на лад пролетарскі, але — песьні гэтай перашкаджае яму адна бяда: яму сьняцца сны аб Беларусі, бо й далей ён астаўся беларускім народным паэтам, прарокам свайго народу. А гэныя пролетарскія матывы, выражаныя ў форме высока-мастацкай, як і ўсё творства Купалы,—гэта прымусовая дань песьняра часу, дань варункам, у якіх ён апынуўся. Загаловак урэшце „безназоўнае“ гавора сам за сябе. Для свайго творства ў бальшавіцкім пэрыядзе Я. Купала не знашоў назову!...

Судзіць аб творстве Купалы апошніх дзён ня маем магчымасьці, дзеля тэй палітычнай мяжы, якая дзеліць Беларусь Заходнюю ад Усходняй. Аднак, на сколькі ведаем, апошнім часам магутная, прарочая ліра Купалы ў Б.С.Р.Р., на вялікі жаль замоўкла. Няма там відаць таго прастору і волі думцы, без якіх немагчымае ніякае сапраўды поэтыцкае творства. А шкада! Я. Купала сяньня йшчэ мае толькі 48 гадоў і народ беларускі могбы ад яго шмат чаго яшчэ большага дачакацца...

**А. Сакалінскі.**

# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці.

(Працяг, гл. № 8—9 „Шляху Моладзі“).

### 3. Дэмократызм.

Зусім адменнай ад арыстократызму формай дзяржаўнага ўстройства ёсьць дэмократызм.

Слова „дэмократызм“ выводзіцца ад грэцкіх слоў „дэмос“ (народ) і „кратос“ (ўлада) і азначае тое самае, што народаўладзтва. Пры дэмократычным устройстве дзяржавы ўлада належыць не да аднэй асобы (монарха), не да некалькіх асобаў (арыстократаў), а да **ўсяго народу** (дэмосу).

Дэмократызм зрадзіўся ў даўнейшай Грэцыі, асабліва ў горадзе Атэнах. Тамака кожны свабодны грамадзянін

меў права прымаць удзел у абгаварываньні грамадзкіх спраў і агульна-дзяржаўных пастановах; кожны грамадзянін мог быць выбраны на найвышэйшае нават становішча: адміністрацыйнае, судовае або вайсковае — словам у даўнейшай Грэцыі кожны грамадзянін мог прымаць удзел у кіраваньні дзяржавай. Слабою стараною грэцкае дэмократыі было тое, што гэты ўдзел мог прымаць толькі грамадзянін свабодны, нявольнікі-ж былі гэтага права пазбаўлены — і гэта было вялікім мінусам у старагрэцкай дэмократыі, якая толькі што нараджалася.

У нас, на Беларусі, у Полацкі пэрыяд нашай гісторыі быў таксама дэмократызм. Народ кіраваўся сам сабою: ён пастанаўляў для сябе законы, аб'яўляў вайну і заключаў мір, выбіраў вышэйшых урадоўцаў і скідаў іх. Ды выбіраў ня толькі ўрадоўцаў, але нават самых князёў, якіх часта пазбаўляў улады за якую правіну і выбіраў каго іншага. Гэтакім парадкам князь у старадаўнай Беларусі меў толькі рэпрэзэнтацыйнае значэньне і быў павадыром войска на выпадак вайны.

Усе справы народ вырашаў на народным зборы, каторы называўся **вечам**. На звон вечавога звону народ валіў на рынак, дзе вырашаліся ўсе справы. Там князь або які іншы вышэйшы урадовец рэфэраваў справу, посьле адкрывалася дыскусія (гутаркі над справай), а посьле часам і спрэчкі. Абсудзіўшы ўсю справу (як гэта цяпер робіцца на нашых грамадзкіх сходах), народ **большасьцю** галасоў вырашаў справу і выносіў пастанову. Вось-жа **на гэтай большасьці народнай і грунтуецца ўвесь дэмократызм**. Тая будзе важная пастанова, за якую стаіць большасьць народу, бо паводле аснаўнога правіла дэмократызму меншасьць павінна пакарыцца большасьці і ўступіць. Тутака дэмократызм апіраецца на такім разуменьні, што трэба заўсёды некага паслухаць. Калі няма згоднай пастановы, трэба слухаць або аднаго чалавека (монарха), або некалькіх людзей, захапіўшых у свае рукі ўладу. Калі ўжо трэба кагось слухаць, то паводле дэмократызму, найлепш паслухаць не аднаго чалавека і ня некулькіх, а большасьці. І вось на гэтай уладзе большасьці народу грунтуецца галоўная аснова дэмократызму.

Але паводле дэмократызму, як мы ўжо сказалі, **усе людзі маюць роўнае права голасу**. Як гэта зразумець? Даўней людзі зьбіраліся на веча і там кожны грамадзянін падаваў свой голас — і гэта справа адбывалася дужа проста. Тагды да такой дэмократычнай рэспублікі належаў адзін горад з „прыгарадамі", дык кожны грамадзянін мог лёгка прыйсьці на агульнае веча і споўніць свой абавязак. Але цяпер як? Тагды зыходзілася некалькі тысяч народу, дык сяк-так маглі згаварыцца. Але цяпер як змогуць лю-

дзі зыйсьціся з усей дзяржавы, абгаварыць справу і падаць голас? Гэта-ж ня тысячы народу, як было даўней, але цэлыя мільёны? Як яны зыдуцца, дзе памесьцяцца і як абгавораць?

Але і на гэта знайшлі спосаб. Калі ня могуць прысьці ўсе грамадзяне, дык **пасылаюць** сваіх прадстаўнікоў. Гэтых прадстаўнікоў выбіралі даўней на сходзе, давалі ім наказ, чаго яны маюць дамагацца і пасылалі іх на агульны сход або веча. І цяпер гэтаксама адбываецца. Толькі цяпер такі агульны сход выбраных народам прадстаўнікоў (або паслоў) не называюцца вечам, а **соймам** (ад слова сыйсьціся) або **парлямэнтам** (ад францускага слова „парле", што зн. гаварыць). Выбары паслоў цяпер адбываюцца інакш, як даўней. Затым, што цяпер людзі ня могуць зыйсьціся ў адно месца ня толькі з цэлага ваяводзтва, але нават і аднаго павету, дык выбары адбываюцца пры помачы картачак: кожны грамадзянін кідае картачку на тых кандыдатаў, якія яму найбольш да ўспадобы.

Цяперашнія дэмократычныя выбары адбываюцца найчасьцей паводле так зв. пяціпрыметнай сыстэмы. Паводле гэтай сыстэмы выбары павінны быць: 1) агульныя, 2) таемныя, 3) беспасрэдныя, 4) роўныя і 5) пропорцыянальныя.

Што значыць кожная з гэтых пяці прымет дэмократычных выбараў?

1. Перадусім, што значаць выбары **агульныя**? Агульныя выбары будуць тагды, калі **ўсе** грамадзяне, якія маюць зразуменьне грамадзкіх спраў, маюць магчымасьць падаць свой голас. Пры агульным галасаваньні маюць права падаць свой голас і багатыя і бедныя, і вучоныя і нявучоныя, і работнікі і сяляне, і мужчыны і жанчыны — словам усе грамадзяне краю, бяз рожніцы роду, маемасьці і нацыянальнасьці. Калі-ж якая колечы часьць грамадзян ня мае права галасаваць, тагды ўжо выбары ня будуць агульнымі і праз гэта самае ня будуць дэмократычнымі.

2. А што значаць выбары **тайныя**? Пры агульнасьці выбараў людзі ўвялі яшчэ і тайнасьць, а гэта затым, каб кожны мог, нікога не баючыся, спаўняць свой абавязак так, як яму дыктуе сумленьне. Каліб выбары ня былі тайныя, тагды шмат хто баяўсяб адкрыта выявіць сваю волю і такім парадкам выбары праходзіліб пад прымусам. Возьмем такі прыклад: пан мае парабкоў, пан хоча галасаваць на сваіх кандыдатаў, а парабкі на сваіх. Каліб выбары былі яўныя, тагды парабкі баючыся пана прымушаны быліб галасаваць на панскіх кандыдатаў, а пры тайных выбарах ужо гэтага ня будзе: парабак можа даць свой голас за каго хоча. Пры яўных выбарах быўбы нацiск ня толькі з боку паноў і фабрыкантаў але быўбы яшчэ ў большай меры з боку ўраду, паліцыі, а такжа і розных агентаў, а пры тай-

ных выбарах, хаця і ёсьць націск, але ўжо няма небясьпекі, што будуць караць за выбары і затым чалавек ёсьць свабаднейшы ў падаваньні свайго голасу. Націск пры тайным галасаваньні можна толькі рабіць на нясьведамыя масы.

3. А якія гэта будуць выбары **беспасрэдныя**? Гэта будуць такія выбары, пры якіх выбаршчык галасуе проста і беспасрэдна на кандыдатаў у паслы. Даўней пры выбарах у расейскую Дзяржаўную Думу ня было беспасрэднага галасаваньня, тагды выбіралі выбаршчыкаў, а ўжо гэтыя выбаршчыкі зьяжджаліся ў губэрнскі горад і тут выбіралі паслоў. Такія выбары ня былі беспасрэднымі, бо адбываліся пры пасрэдніцтве выбаршчыкаў. І цяпер яшчэ такім парадкам выбіраюцца ў нас гмінныя рады: сходзяцца людзі з цэлай грамады, выбіраюць выбаршчыкаў, а ўжо выбаршчыкі ідуць на гміннае сабраньне і там выбіраюць гмінную раду. Пры такіх пасрэдных выбарах могуць часамі быць выбраны дэлегаты, якіх людзі не хацелі выбіраць, а хацелі самі выбаршчыкі. Затым, каб даць магчымасьць кожнаму чалавеку беспасрэдна кінуць голас на таго, а ня іншага кандыдата, уведзены выбары беспасрэдныя.

4. **Роўныя** выбары ізноў будуць тагды, калі кожны чалавек мае роўны голас. Часам бывала так, што багаты чалавек, які мае больш маемасьці, або плаціць больш падаткаў, кідае два-тры галасы, а той чалавек, які ня мае большага багацьця, кідае толькі адзін голас. Такія выбары ўжо будуць ня роўныя і затым недэмократычныя. Людзі заўсёды імкнуцца да роўнасьці ў выбарах.

5. Урэшце апошнім часам увялі яшчэ выбары **пропорцыянальныя** а гэта затым, каб даць голас ня толькі большасьці народу, але і меншасьці. Пры выбарах непропорцыянальных большасьць заўсёды бярэ верх і можа ня пусьціць у парлямант ніводнага кандыдата з меншасьці (так як гэта бывае напр. пры выбарах у вёсцы на грамадзкіх сабраньнях). Зусім што другое, калі выбары адбываюцца пропорцыянальна да колькасьці галасоў, як напр. на гмінных сабраньнях. Тамака сьпісак, які атрымаў (дапусьцім) 40 галасоў, праводзіць (дапусьцім) 4 кандыдатаў, а сьпісак, які атрымаў 30 галасоў, праводзіць паводле пропорцыі 3 кандыдаты. Гэтак і ўсюды. Такім парадкам пры пропорцыянальных выбарах меншасьці дазваляецца непакрыўджанай і праводзіць сваіх паслоў паводле колькасьці пададзеных галасоў. Пропорцыянальныя выбары — гэта ўжо, як кажуць, дасканальнасьць дэмократычных форм у кіраваньні дзяржавай, бо нават меншасьць дамагаецца мець уплыў на дзяржаўныя справы. Пры ўсім гэтым, рэч зусім зразумелая, што пры дэмократычным устройстве дзяржавы выбары павінны быць **свабодныя**, г. з. бяз ніякага націску з боку адміністрацыйных, вайсковых і іншых. уладаў. За

свабодныя выбары дэмократызм заўсёды вёў заўзятае змаганьне з рознымі дыктатарамі, якія хацелі накінуць сваю волю народу і гэтым сфальшаваць народны голас.

Дэмократызм у працягу вякоў меў розныя формы свайго разьвіцьця. Як мы ужо бачылі, у старадаўнай Грэцыі ён быў даволі нуртаты толькі ня дазваляў нявольніцтва, але нават адсовываў іх ад удзелу ў выбарах. У пазьнейшых часох дэмократызм нават загінуў быў зусім, на яго месца прышла неагранічаная ўлада монархаў або арыстократыі, але ў 18 стагодзьдзі дэмократычныя ідэі аджываюць ізноў. Найбольшым змагальнікам за тыя ідэі ў той час зьяўляецца францускі філёзаф Ян Руссо. Ён **цьвярдзіў аб роўных правох усіх людзей.** Потым француская рэвалюцыя кідае ў сьвет тры клічы: **лібэртэ, эгалітэ, фратэрнітэ,** што знача свабода роўнасьць і братэрства — і ад гэтага часу дэмократызм захапляе ўсіх, людзі праз усё 19 стагодзьдзе імкнуцца правесьці ў жыцьцё гэтыя клічы. Праводзячы гэтыя клічы ў жыцьцё, дэмократызм дамагаецца поўнай свабоды сумленьня і веры, а таксама свабоды слова, друку, свабоды арганізацыяў і таварыстваў — словам ідзе да таго, каб паміж людзьмі запанавала запраўдная свабода, роўнасьць і брацтва.

Але з пачаткам 20 стагодзьдзя ў дэмократычных імкненьнях бачыцца перадом, да гэтага пералому прычыніліся дзьве новыя палітычна-грамадзкія тэорыі: камунізм і фашызм, якія імкнуцца да таго, каб панавала ня большасьць але меншасьць. Замест большасьці народу ў кіраваньні дзяржавай яны ставяць партыйную меншасьць і аддаюць ей кіраўніцтва ўсім дзяржаўным жыцьцём.

**Ваг.**

# Аб народнай творчасьці.

Той, хто хоць крыху цікавіцца народнай творчасьцяй, ведае, што наша беларуская народная творчасьць вельмі багатая. Асабліва шмат ёсьць беларускіх народных песень, якія бадай зусім не сабраныя і ня выдадзеныя ў друку. Праўда, крыху зьбіралі нашу народную творчасьць расейскія і польскія этнолёгі. Але яны зьбіралі іх для сваіх мэтаў, часта ня маючых нічога супольнага з навукай.

У нас сваіх спэцыяльных этнолёгаў, можна сказаць, зусім ня было. Часта этнолёгіяй займаўся пры сваей працы філёлёг, архэолёг або дамарослы этнограф. Але гэтакая праца, рэч зразумелая, не магла даваць вялікіх пладоў. Спэцыялістым—навукоўцам — этнолёгам, якія апошнім часам паяўляюцца, павінна прыхадзіць з помачу само беларускае вясковае граматнае насельніцтва, прынамсі ў запісываньні народных песень, апавяданьняў, баек, прыка-

зак і г. д. Бо трэба ведаць, што народная творчасьць—гэта вялікія скарбы народнай душы, паволі выміраюць разам са старым пакаленьнем, бо маладое пакаленьне народнай творчасьцю мала цікавіцца.

Песьня-ж народная — гэта душа дадзенага народу. Як расьлінка ня можа жыць бяз сонца і вады, так і народ ня можа жыць бяз мовы і песьні. Калі дадзены народ прыймае чужую мову і чужую песьню, то ў гэты-ж мамэнт памірае яго душа, памірае ён цалком. А наш народны прарок Янка Купала кажа: *„І бяз песень-жа народ, што-ж ён варт быць, ён і цёмны, як той скот і беды ня зможа“*... Той чалавек, або цэлы народ, каторы выракаецца свайго, а захопліваецца чужым, ёсьць самагубцам—дэспэратам. Труціць чужніцай здаровы свой народны арганізм, народную душу і цела. Як той самагубца ёсьць адказны маральна за свой чын, так і ў гэтым выпадку самагубца свайго народнага пачуцьця, свайго асабістага „я“ ёсьць маральна адказны перад сваім сумленьнем і перад сваім народам.

Наша песьня і наагул народная творчасьць — гэта ёсьць праўдзівая фатаграфія наша, гэта гісторыя нашага народу, якая запісана залатымі літарамі нашай мовы прадзедаўскай на старонках нашай душы, і якую ніхто, ніякая сіла, ніякі вораг не здалее выдзерці і зьнішчыць. Гэтая цэннасьць заўсёды застаецца нашай уласнасьцю.

Ворагі могуць ад нас забраць зямлю, гаспадарку і ўсё матар'яльнае, што мы маем, а нават жыцьцё могуць забраць, але нашай песьні, нашай мовы, нашай душы ня здолеюць забраць, бо гэтыя скарбы не забіраюцца сілай фізычнай. Усё гэта ёсьць дарам Вышэйшай Істоты, якая дала нам гэта ў форме душы. Песьня—кажу,—гэта вытвар нашай душы, а ня сілы фізычнай.

Дык шануйма-ж нашу душу, нашу песьню, каб ня згінулі, бо гэтая нашая духовая загуба можа быць названа культурным сьветам, як дабравольнае самагубства.

Захаваць мы зможам нашу беларускую чыстую душу толькі ў мове, песьні і нашых абычаях.

У далейшых гэткіх стацьцях хачу зьвярнуць асабліўшую ўвагу нашай моладзі на народную творчасьць, бо ад нас, ад моладзі, залежыць нашае беларускае жыцьцё, або сьмерць. М. Пяцюкевіч.

# Куток для спорту.

### Кіданьні.

Аднэй з галін лёгкай атлетыкі ёсьць кіданьне. Яно ёсьць адным з найстарэйшых спортаў.

Ад найдаўнейшых часаў чалавек у абароннай і зачэпнай вайне паслугоўваўся кіданьнямі ў розных постацях. Дыскам, ашчэпам і рознымі цяжарамі, як каменьні, жалеза і г. п., паслугоўваліся людзі аж да часу вынаходу пораху. Цяпер усё гэта асталося толькі ў спорце.

Спартовыя кіданьні выяўляюцца ў некалькіх відах: кіданьне дыскам, кіданьне ашчэпам, кіданьне жалезнай галкай, молатам і кіданьне цяжарам. Апошнія два кіданьні яшчэ ёсьць ня надта разпаўсюджаны.

Дыск — гэта ёсьць кружок, вялічынёй з невялікую талерку. Зроблены ён з дрэва і мэталю, важыць 2 кіляграмы. Ашчэп—тычка, закончаная сьпічастым жалезным канцом— мае 2 мэтры 1 60 цм. даўжыні, важыць 800 грамаў.

Жалезная галка мае 7 з палавінай кіляграмы вагі.

Молат складаецца з масыўнай валавянай галкі з пryладжаным да яе стальным дротам з аднэй, або з дзьвяма ручкамі. Даўжыня молата 112 цм., цяжар 7 кілягр. і 250 грамаў. Кіданьне молатам было народным спортам Ірляндцаў.

У вельмі даўных часах яны падчас урачыстасьцяў, у народных сваіх вопратках, кідалі праўдзівымі малатамі ў далячыню. Пазьней гэты звычай дастаўся ў Амэрыку, дзе яго ўдасканалена. Цяпер кіданьне молатам ёсьць больш разпаўсюджана ў іншых краёх, чымся ў сваей бацькаўшчыне.

Кіданьне молатам вымагае шмат сілы і адпаведнага цяжару кідаючага.

Цяжар — масыўная валавянная галка, катораяважыць 25 кіляграмаў. Даўжыня цяжару — 406 мм.

Ручка, прытрымаўвючая цяжар, павінна быць з жалеза, або з сталі, грубіні 13 мм. трыкутнай формы.

Кіданьне цяжарам вымагае яшчэ больш сілы і вагі кідаючага.

Усе кіданьні ёсьць добрай гімнастыкай рук, ног, тулава і вочнай ор'ентацыі. Апрача гэтага яны ёсьць карысны ў практычным жыцьці, бо выробляюць лоўкасьць у самаабароне.

Каб кіданьні былі карысны ўсяму арганізму, трэба кідаць правай і левай рукой, тады будуць раўнамерна разьвівацца абедзьве палавіны цела.

Кіданьне, як беларускі народны спорт, выяўляецца ў розных постацях, як качаньне кола (кацёлка) і кіданьне каменьні, якое бывае рукой і пры помачы прыладаў. Кідаюць ў далечыню і ў вышыню. Апрача гэтага ёсьць кіданьне па вадзе, якое выяўляецца ў тым, каб кінуць камень раўналежна да паверхняе плошчы вады так, каб ён мог адбівацца некалькі разоў ад вады.

Прыладай да кіданьня каменьні ёсьць пушчалка, каторая бывае драўляная, або з вяроўкі, пояса, раменьня і.г.п.

Ул. Казлоўшчык.

# Літэратурны аддзел.

* * *

Калі гора цябе напаткае
І ты плакаць тады на'т гатоў,
Ня плач, браце, хай сьлёзаў ня знае
Сынок вольных калісь Крывічоў.
Калі жыцьцё табе ўжо ня міла
І ты клясьці яго на'т гатоў —
Не кляні, мой ты браце, пахілы,
Сынок вольных калісь Крывічоў.
Калі хмара павісьне панура
І край родны пакрые узноў,
Ці ўздымецца страшная бура —
Ты змагайся, — ты ж сын Крывічоў!

**С. Машара.**

* * *

Места, места—любы вораг—
Пэўне ты мяне псуеш;
Бо ня дальш, як ад учора,
Зьненавідзеў я сябе-ж.
У затуманеных алеях
Я засмучаны хадзіў...
Месяц белы, як лілея,
Серабро на лісьце ліў...
Прада мною чарадою
Шмат хадзіла весялух
Сьмех зьвінеў вясьнянай мрояй
Разыходзіўся наўкруг...
І яна сьмяялась разам —
Доўга чуўся мне той сьмех
І цяпер ў вушшу адразу
Ён гучыць, як-бы на грэх...

**Каласок.**

ЛЕТНЯЯ НОЧ.

З далі сіні васільковай
На пурпурах па зары
Ночка ціхенька спусьцілась
І прыпала да зямлі.
І абняўшы, лашчыць, песьціць
І цалуе твар яе,
І, як матка, чула, квола
Прыціскае да сябе.
Зоркі сталі ў караводы,
З неба яснага глядзяць,
Штось гавораць між сабою
І сьмяюцца — мільгацяць.
Ў іхню гутарку таёмну,
Ў іх нябесны галасы
Залатыя ўніклі нівы,
Пахінуўшы каласы.
Іх вясёласьць, сьмех дзяціны
Ловіць лес і гай пад час
І ў задуме штось шапочуць
Ім ліствою у вадказ.
Ручаёк бяжыць, здаецца,
Не дакнецца берагоў,
Толькі часам хвалькай плюхне
Каля сонных плюсьнягоў.
Ветрык ветла паднімае
Кветкаў тварыкі з расой,
Каб лавілі думкі зораў
Іх размовы між сабой.
Толькі вёска пад гарою,
Расьцягнуўшысь ланцугом,
Працай зморана, забіта,
Сьпіць бы ўмёршы цяжкім сном
Зоркі-яскі шляхам неба
Ў край няведамы ідуць,
Штось гавораць соннай вёсцы
І свае ўсьмешкі шлюць.
Ночка песьціць і галубіць
І цалуе твар зямлі —
Пад цалункамі ёй сьняцца
Насалоды—шчасьця сны?

**Ўлад-Ініцкі.**

## ДАЙ МНЕ РУЧКУ, КАХАНАЯ ДЗЯЎЧЫНА...

Дай мне ручку, каханая дзяўчына,
пойдзем разам мы шляхам жыцьця;
нас ня зломіць ліхая часіна,
кранем шчасьце з яго нябыцьця.
Пойдзем цьвёрдай, жыцьцёвай мы сьцежкай
і ня будзем баяцца злыбед;
не засьмецім шляху свайго спрэчкай,
злое сваркі загіне на'т сьлед.
Цемру ночы асьвеціш ты зрокам
сваіх шэрых мілосных вачэй
і ня спудзімся чорных мы духаў,
ні іх цёмных, віхурных начэй.
Усе платы, што нам будуць стаўляці,
паламае супольна любоў,
нас ня змогуць яны затрымаці,
як тых шэранькіх двох галубоў.
А як роў мы спаткаем глыбокі
на жыцьцёвым тым нашым шляху —
—пераскочым, хоць будзе шырокі,
дзяржучыся рука за руку.
А як скажа Тварэц нам галосна,
што даволі ўжо так мы ідзём,
мы абнімемся моцна, мілосна
і ў абняцьці навекі засьнём.

**Казлоўшчык.**

## УСПАМІНЫ

(Абразкі з праўдзівасьці)
(Глядзі № 8—9 „Шлях Моладзі").

Дні залатыя, веснавыя!...
Вы узрасьлі як бы жывыя
У гэтым маім ўспамінаньні!
Зрадзілі ў сэрцы вы каханьне,
Якое полымем пылае,
Й пра вашу прошласьць ўспамінае!...
І рад шнуроў, дарог і вузкіх
І водгук песьняў беларускіх
Так дарагія, так мне мілы,
Што бяз прычыны няма сілы
Ад вас душою адарвацца!..
Тут стаў я каб палюбавацца
Прыгожым, мілым кругазорам
Й таёмным лесу разгаворам.
Аднак ціхія ветру хвалі
Мае ўсе думкі перарвалі
І да вушэй данесьлісь зыкі

Вясёлай музыкі і крыкі
Разгульнай моладзі ў Лоску;
Тут я зьвярнуўся ў гэту вёску,
Бо чуў, што ў гэтую нядзелю,
Казалі, будзе там вясельле.

Прыйшоўшы, ўсё знайшоў ў парадку:
Музыка тузае двохрадку,
Другі ў цымбалы ёмка звоне,
А натоўп моладзі гамоне,
Як і звычайны шум вясельны
У прыгожы, ясны дзень нядзельны.

О, моладасьці час бурлівы!
Ты вытвараеш проста дзівы!
Знаходзячыся ў буўнай сіле
Ты прышчапляеш душы крыльле,
Якое на прастор імкнецца
І без спачынку з сілай рвецца,
Каб дасягнуць усякай мэты...
І паказацца з славай сьвету.
Аднак-жа розум не заўсёды
Бывае слушны да прыроды
І часта душу пакіруе
Ён на дарогу збыт сьлізвую,
Дзе яна падае, марнее,
Пакуль зусім не абамлее.

(д. б.)

**Ю. Сяргіевіч.**

## Батрачае жыцьцё.

Недалёка ад лесу, на хутары, стаяла адзінока ўбогая пахілая хатка. У гэтай хатцы жыло двое старычкоў, якія мелі двух сыноў. Гэтыя два хлапчукі былі прыгожыя, разумныя і добрыя. Ніколі ніхто ня чуў ад іх прыкрых слоў, з кожным яны ўмелі пагаварыць, як з старым, так і змалым і паміж сабой жылі заўсёды ў згодзе.

Але жылося ім блага, вядома ўсім батрачае жыцьцё, яшчэ добра, калі хоць у гаспадарцы вядзецца, але калі не — тады хоць жывы ў зямлю лезь. Мелі яны ўсяго адну дзесяцінку зямлі і коніка старэнькага. Хлеба ніколі дасыта ня елі, а жылі ўвесь час пераважна бульбачкай і мягкінкай, дый гэтага нават не хватала, а ўжо аб скораме і гутаркі ня было.

Як на тую бяду захварэў бацька. Што рабіць, што чыніць! Няма грошай звазіць да дохтара, дык здаліся ўсе на волю Боскую...

Вось аднэй ночкі памёр бацька. Што рабіць? Грошай няма, дошчак так-жа, а дамавіну ўсётакі трэба якую, хоць

убогую зрабіць. Пачалі браты паміж сабой радзіцца, як можна было б выйсьці з гэтай бяды.

Якраз недалёка ад іх хаткі былі абшырныя паля аднаго багатага пана, які быў вядомы сваёю гордасьцю і ненавісьцю да сялян-беднякоў. Вот-жа малодшы сын Андрэй і кажа да старшага брата: пайду да пана ў двор і папрашу, можа дасьць пару дошчачак, а мы яму за гэта адробім. Пайшоў Андрэй да пана і просіць:

— Паночку, родненькі, даражэнькі, пазыч хоць пару дошчачак на дамавіну бацьку, памёр бедны!

— Цо-цо-цо? Ойцец умарл, но і хвала Богу, едным мней бэндзе, з тых бедных, цо своей зємі не маён, а нашон окрадаён...

Слухаў, слухаў Андрэй яго, а потым плюнуў і кажа:

— Эх, паночку, мой паночку, не спагадаеш ты людзям і ня ведаеш сам, што ў цябе за плячыма стаіць. Дай Бог, каб пан да нас прышоў-бы пазычаць!

Прышоўшы да хаты, горка заплакаў укленчыўшы перад памёршым бацькам, пацалаваў яму ў рукі і давай маліць нябошчыка:

— Татачка мілы, родны, даруй нам, што мы цябе без дамавіны пахаваем, але што-ж зробіш, калі нам Бог даў такі лёс батрачы, што ніхто над намі беднякамі ня мае літасьці.

І вось назаўтра, як толькі разьвіднелася, запрэглі свайго худзенькага коніка, вынесьлі з хаты памёршага бацьку на воз і павезьлі на могілкі. На могілках толькі пачуўся адзіны хаўтурны, басіста-працяжны звон і той скора занямеў. Упусьцілі ў магілку бацьку, закапалі яго, укленчылі перад насыпам, памаліліся, заплакалі горка і ад'ехалі дамоў.

Праз некалькі дзён і маці памёрла. Пахавалі таксама, як і бацьку, бяз труны, бяз нічога. Асталіся толькі ўдвух: Якім з Андрэям. Няраз, сядаючы да стала, паглядзяць адзін на другога і нехаця сьлёзы пальюцца з вачэй.

Прайшла зіма. Настала вясна, зазялянела ніўка, гаёчкі, бярозкі, лужочкі, усім весяла стала на сэрцы, а ім не! Ім узноў няшчасьце сталася: была ў іх цяпер толькі адна пацеха — гэта старэнькая, здохленькая канінка і тая здохла. Цяпер хоць жывы ў зямлю лезь. Ёсьць адна дзісянцінка зямлі і той няма чым абрабіць. Нічога не парадзіш, як Бог дае, так і добра — кажа Якім.

Аднаго дня, пабраўшы ў рукі рыдлёўкі, пайшлі капаць свой загончык, каб хаця пасадзіць якую бульбінку. Капалі яны, капалі, папацелі, зусім змагліся. Якраз у гэту пару праяжджаў той самы пан у горад пагуляць. Убачыўшы іх капаючы і кажа свайму фурману:

— Відзіш, як тэ два гультае бавёнсе в пікера. Пачуў гэта Андрэй і кажа пану:

Каб пан так усё сваё жыцьцё гуляў у такога пікера, у якога мы цяпер гуляем. Пан паехаў сваей дарогай, а Якім з Андрэям рабілі сваё.

Гады ішлі за гадамі і лёс іх паволі папраўляўся. Прыходзілася ўсяго зацерпіць—і голаду і холаду, бяды і нуды. Але ўсё-ж такі Бог і над імі зьлітаваўся. Пачало ім усё і ўсюды шэньціць і людцы добрыя часам што-колечы памаглі і так памаленьку ўзьбіліся на ногі і пачалі жыць, так, як і людзі.

А пану наадварот, усё з кожным двём няшчасьце за няшчасьцем: пачалі дзеці паміраць, пасьля і жонка, а нарэшце і ўся яго гаспадарка згарэла і астаўся пан адзін, як бізун...

Янка Ваўштолскі.

## Ля ракі.

Ноч... Ціха... Толькі дзе-ня-дзе чувацца, як крыкне сава; нібыто голас чалавека, нібыто плач дзіцяці. А рэчка чыстая і бязмоўная цячэ між узгоркаў, лугоў і лясоў. І цячэ яна ў няведамы край. Ня ведама, ці цячэ яна з радасьцю ў сэрцы сваім, ці з нудой і горам вялікім, ці з поўнай жыцьцёвай красой, ці з абдуманым крокам далёкім... Цячэ яна ціха й паважна, усё ў даль без затрымкі ідзе; абмываючы карэньне дрэў панадвісшых і каменьне ляжачых на дне. Калі добра ўглядзецца ў гэтую рэчку, харaства колькі знойдзеш у ёй, што ня можна ніяк надзівіцца, здаецца сам пайшоў-бы тою-ж сьцягой. І аддаўся-б тэйжа хвалі жыцьцёвай... Бязмоўная рэчка, колькі суму наводзіш у сэрца — здаецца на век-бы з табою зрадніўсяб! Але штосьці трымае і сэрца балюча так чымсьці сьціскае...

І цячэ яна супакойна і гожа, нібыто жывы абразок сьветлай будучыні, нібыто срэбны паясок. У ей адбівающца воблікі дрэваў, воблікі зорак і хмарак у бязьмерным прасторы. Адбіваецца ўсё тое, што мінае, пралятае і мігаціцца над ёю... А ў вадзе, якая поўнасьць стварэньняў. Там і рыбка жыве, там і рачык гнязьдзіцца, там і траўка шапоча цішком. І гэта вось ўсё сужыўшысь з вольнаю рэчкай і жыве бяз усякіх клапот і журбы. Нават вецер і той мае з рэчкай гаворку. Бяз мілага слоўца яе ня мінець. То ўзьляціць ён неяк зьнячэўку, ускалыша яе і далей гдзесь сьпяшыць. І журчыць па каменьчыках дробных, цячэ ўсё наперад далей, уносячы казку тэй ночы цудоўнай і шчасьце бяздольных людзей.

Латвія, Рыга. Ул. Бяздольны.

# Лісты.

## ПЕРАСТАНЬЦЕ ПІЦЬ АТРУТУ!

**Тургелі**, Віленска-Троцкага пав. Будучы ў Тургелях на фэсьце, праходзіў я каля аднэй піўной і быў сьведкам, як моладзь напіўшаяся гарэліцы-атруты няміласэрна разьбівалася. Хацеў-бы я вось запытаць праз паважную часопісь „Шлях Моладзі“ у тых асоб, каторыя так робяць, ці Вы сапраўды хочаце быць самі сабе ворагамі, ці вы ня маеце дзе грошай падзець, ці гэта вялікую прыемнасьць робіць адзін другому лоб разьбіваць, судзіцца, лячыцца, хварэць!? Мне здаецца, што не! І таксама скажа кожды, хто жадае дабра для сябе і для ўсіх.

Гарэлка нічагусенька добрага нам не дае, дык і ня трэба яе піць, а так-жа і ня трэба папярос курыць, якія таксама шкодныя для чалавека! За грошы гэтыя лепш выпішце добрую кніжку ці газэту, якая напэўна дасьць больш карысьці і прынясе супакой ў жыцьцё ня толькі асабістае, але і грамадзкае.

Я. С—скі.

## АБ НАШАЙ МОЛАДЗІ.

**Вёска Клочкава**, Беніцкай гм., Маладэчанскага пав. Сягодня бачым шпаркае маральнае адраджэньне нашай вясковай беларускай моладзі там, дзе вясковыя хлапцы і дзяўчаты праводзяць прамень культуры, нацыянальнай сьведамасьці, гаспадарскую ўмеласьць і іншае. Тут-жа ў нас у в. Клочкаве, трэба з жахам прызнаць, ня тяк ёсьць у узўзгадаваньні і ў іншых галінах жыцьця і працы. Мы спаткаем тут ня што іншае, як толькі карты (21), гарэлку, нож і іншыя рэчы. Каждая вольная часіна ўсьвята, гэта час для такіх згубных заняцьцяў ня толькі нашай моладзі, але і старэйшых. Я шкадуючы асталае вёскі Клочкава, аб фактах хачу памаўчаць, бо ня веру, каб далей так рабілі нашы пакутныя сяляне і наша моладзь. Я моцна веру у іх шпаркае адраджэньне. І места дасюляшніх іграў у карты, гарэлкі, займе прамень маральнага адраджэвьня, нацыянальная сьведамасьць, газэта, кніжка, радые. Усё гэта карысна ў нашым гаротным жыцьці, бо даюць усебаковую веду, як трэба жыць.

Пал. Ал.

# Хроніка.

**Акт абвінавачаньня.** Рэдактар „Шляху Моладзі“ Мар‘ян Пяцюкевіч атрымаў ужо акт абвінавачаньня за сканфіскаваны № 4 „Шляху Моладзі“.

**Арышты.** Пасьля разьвязаньня Сойму і Сэнату адмі-

ністрацыйныя ўлады арыштавалі б. сэнатара Б. Рагулю з Беларускага Пасольскага Клюбу, а так-жа і б. паслоў Крынчыка, Гаўрыліка, Валынца з Беларускага Сял.-Раб. Пасольскага Клюбу „Змаганьне". Яшчэ-ж перад разьвязаньнем Сойму і Сэнату арыштавалі б. пасла Дварчаніна з Клюбу „Змаганьне", за тое, што быццам на мітынгу ў Алекшычах, Горадзенскага пав., страляў ён да паліцыі.

— 20-га верасьня с. г. паліцыя арыштавала ў Вільні гр. Вайцеха Шутовіча. Прычына арышту палітычная.

**Беларусы і выбары ў Сойм і Сэнат.** Як даведываемся, у сувязі з наступаючымі выбарамі ў Сойм і Сэнат, у Вільні ўжо паўсталі дзьве групы, якія маюць іські на выбары. Адна з іх гэта Часовая Агульна-Беларуская Выбарная Камісія, якую выбраў Беларускі Нацыянальны Камітэт на сваім Агульным Сходзе 7-га верасьня. Другая—гэта Выбарны Камітэт новага, аб якім мы ўжо пісалі ў № 8 - 9, Цэнтральнага Саюзу Бел. Культ.-Прасв. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

**Юбілей Янкі Купалы.** У сёлетнім годзе прыпадае 25-ці лецьце творчасьці найвялікшага беларускага паэта Янкі Купалы, аб чым мы пішам на другім месцы. Вось-жа ў сувязі з гэтым 28-га верасьня Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ладзіць акадэмію ў літоўскай салі, завул. сьв. Мікалая № 8, на якой прачытае лекцыю б. сэнатар В. Багдановіч на тэму „Янка Купала і Шаўчэнка".

**З выдавецкае нівы.** У гэтым месяцы выйшлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі: „**Płač biełaruskaj staronki matki pa dzietkach swaich renehatach**" — Ул. Казлоўшчыка, выд. Я. Багдановіча, сябры Рэдакцыйнай Калегіі „Ш. М.", цана кніжкі 30 гр.; „Божая ліра" — сьпеўнік, выданы мэтадыстамі; „Беларускі правапіс" Р. Астроўскага, другое выданьне, значна дапоўнена; беларуская гаспадарчая часопісь „Саха" № 1. Хутка-ж маюць выйсьці з друку: „**Dudka Biełaruskaja**" і „**Smyk biełaruski**" Фр. Багушэвіча разам, і з вялікай прадмовай Кс. Адама Станкевіча аб жыцьці і творчасьці Фр. Багушэвіча, і „Календарык „Шляху Моладзі" на 1931 г. Кніжкі гэтыя можна купіць-выпісаць з Кнігарні „Пагоня", **Wilno, ul. Ludwisarska 1.**

**З жыцьця братоў украінцаў.** Пасьля развязаньня Сойму і Сэнату не абмінулі арышты і ўкраінскіх паслоў і сэнатараў; да 21-га верасьня арыштавалі ўжо польскія ўлады аж 7 украінскіх б. паслоў і сэнатараў, а іменна: Паліва, Ляшчынскага, Казіцкага, Васынчука, Кузыка, Когута і Цэлевіча.

— Украінскі хор у Чыкаго ў Амэрыцы атрымаў першую нагароду. 23-га жніўня с. г. у Чы-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

каго ў Амэрыцы быў наладжаны вялікі музычны папіс, на якім было больш як 150.000 слухачоў і дзе выступала 16 розных хораў зложаных з 4 000 сьпевакоў. У выніку папісаў атрымаў першую нагароду украінскі нацыянальны хор, зложаны з 30 асоб пад кіраўніцтвам гр. Ю. Беніцкага. Трэба зазначыць, што ў конкурсе гэтым бралі ўчасьце хоры: чэхаславацкі, швэдзкі, нямецкі, расійскі, нэгржскі і многа іншых. Дык чэсьць украінцам і іх песьні!

**З Польшчы.** 30-га жніўня с. г. Прэзыдэнт Польшчы разьвязаў Сойм і Сэнат і назначыў новыя выбары—ў Сойм на 16 лістапада і ў Сэнат на 23 га лістапада с. г. — У ночы з 9 на 10 верасьня адміністрацыйныя ўлады арыштавалі шмат польскіх б. паслоў, арганізатараў кракаўскага кангрэсу абароны, народных правоў.—14-га верасьня с.г. у сувязі з надхадзячымі выбарамі і апошнімі арыштамі паслоў з апазыцыйных польскіх партыяў г. зв. „цэнтролеву", былі наладжаны ў большых местах мітынгі і паходы, у часе якіх дайшло да паважных забурэньняў, і так у Варшаве былі 2 асобы забітыя і шмат раненых, у іншых местах таксама было шмат раненых. Шмат дзе дасталася паліцыі, а ў Торуні дык дэманстранты так моцна пабілі старасту кіямі, што пасьля трэба было адвезьці ў шпіталь. — У зьвязку з надхадзячымі выбарамі ўжо распачалася прадвыбарная работа. — У сучаснай Галіччыне апошнім часам вельмі неспакойна. Невядомыя арганізацыі паляць польскія асады, двары, грабяць урадавыя грошы, прычыняюць катастрофы цягнікоў і іншае. Польскія газэты работу гэту прыпісваюць украінцам.

**З заграніцы.** 14-га верасьня 1930 г. у Нямеччыне адбыліся выбары ў парлямант. У выбарах гэтых ніводная з партыяў не здабыла рашучае большасьці. Найбольшы ж узрост мандатаў мелі народныя сацыялісты „гітлероўцы", якія раней мелі 12 мандатаў, а цяпер маюць 107, і камуністы, якія мелі раней 54, а цяпер 76. Гітляроўцы, якіх так завуць дзеля таго, што іхні правадыр мае прозьвішча Гітлер, гэта найвялікшыя ворагі камуністаў, яны заўсёды вядуць з камуністамі заўзятае змаганьне пры першым лепшым спатканьні. Вынік нямецкіх выбараў зрабіў вялікае ўражаньне на цэлым сьвеце. А гэта дзеля таго, што гітлероўцы імкнуцца да зьмены сучасных нямецкіх граніцаў, а гэтым самым могуць давясьці нават да ўсесьветнай вайны.

## Усячына.

**Сколькі ёсьць жыхароў у Злучаных Штатах Амэрыкі.** Як падаюць з Вашынгтону, паводле апошняе перапісі Злучаныя Штаты Амэрыкі налічаюць цяпер 122.728 873 жыхароў. За апошніх 10 лет ад 1920 г. у Зл. Шт. Амэрыкі прыбыло 17.018.253 жыхароў.

**Астаткі экспэдыцыі Андрэ.** Нядаўна нарвэскай палярнай экспэдыцыі др. Горна, які выехаў на паўночны полюс, прыпадкова ўдалося адшукаць астаткі загінуўшае 33 гады назад палярнае экспэдыцыі Андрэ, які хацеў пе-

раляцець паўночны полюс з Нарвэгіі ў Амэрыку. Пры трупе Андрэ знойдзена ягоны дзеўнік і нататнік, якія ў хуткім часе будуць адчытаны і паданы да публічнага ведама.

**На вышыні 16.С00 мэтраў.** Прафэсар бруксэльскага унівэрсытэту Пікар у Аўгсбурдзе выбудаваў спэцыяльны аэростат, на якім мае у хуткі часе узьляцець у вышыню на 16.000 мэтраў (16 кілямэтраў).

Да гэтае пары толькі амэрыканскі капітан Грэем узьляцеў на 12.945 мэтраў у 1928 г., вышэй-жа ніхто ня мог падняцца.

**200 000.000 франкаў у золаце.** Італьянскім нурком з карабля „Артігіліо" удалося знайсьці затоплены ў 1923 г. карабель „Эгіпет", які вёз 200.000.000 залатых франкаў. Нуркі гэныя думаюць адшукаць гэты вялізарны скарб.

**Пералёт Атлянтыцкага акіяна з Эўропы ў Амэрыку.** 2-га верасьня с. г. францускія лятуны Костэс і Бэльлёнто за 37 гадзінах і 13 мінутах лёту пераляцелі з Францыі ў Амэрыку праз Атлянтыцкі акіян. Гэтае дарогі яшчэ ніхто да гэтае пары не праляцеў.



## Куток сьмеху.

### Муж і жонка.

Муж: слухай, жонка, я табе раблю засьцярогу, калі ты да першага не паправісься, дык я цябе выганю з хаты.

Жонка: не грашы Бога, я заўсёды перад першым стараюся быць добрэй, асабліва ў тую хвіліну, як прыходзіш з грашмі.

### Пан і парабак.

Пан парабку сказаў так: калі добра будзеш служыць, дык куплю добрую дзягу гасьцінца.

Парабак. Ага, то пан значыцца хочыш каб я добра служыў, а пад старасьць на дзягу начэпіш, як свайго рабчыка. Мудрая жывёла з пана! Я. Б.